Праваабарончы
# Веснік
*лістапад 2014*
Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь

# КАМІТЭТ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА ААН ПРЫЗНАЎ ПАРУШЭННЕ БЕЛАРУССЮ ПРАВОЎ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА

**У гістарычным рашэнні супраць дзяржаў, якія ўшчамляюць права на свабоду асацыяцый, прызнана, што пераслед палітвязня быў вынікам адмовы ў рэгістрацыі Праваабарончага цэнтру «Вясна»**

**Парыж – Мінск,
14 лістапада 2014**

24 кастрычніка 2014 г. Камітэт па правах чалавека ААН прыняў гістарычнае рашэнне па справе Алеся Бяляцкага, старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH), прызнаўшы, што дзяржава Беларусь парушыла яго правы, гарантаваныя артыкуламі 9 (права на свабоду і асабістую недатыкальнасць), 14 (права на справядлівае судовае разбіральніцтва) і 22 (свабода асацыяцый) Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Гэтае рашэнне, прынятае па індывідуальным паведамленні жонкі Алеся Бяляцкага Наталлі Пінчук, якую прадстаўляе генеральны дырэктара FIDH Антуан Бернар, з'яўляецца важным пасланнем усім рэжымам, якія маніпулююць заканадаўствам для таго, каб заглушыць пратэстныя галасы, парушаючы тым самым свабоду асацыяцый.

Пасля таго, як «Вясна» была ў 2003 годзе пазбаўленая дзяржаўнай рэгістрацыі, яе заснавальнікі тройчы (у 2007 і 2009 гадах) звярталіся ў Мінюст Рэспублікі Беларусь за рэгістрацыяй, але дзяржава тройчы адмаўляла ў рэгістрацыі гэтай арганізацыі, пазбавіўшы яе такім чынам магчымасці адкрываць рахункі на сваё імя для прыцягнення фінансавання сваёй дзейнасці. Паводле высноваў Камітэта, парушэннем свабоды асацыяцыі з'яўляюцца адмовы ў дзяржаўнай рэгістрацыі Праваабарончага цэнтра «Вясна», прынятыя толькі на падставе таго, што ў пададзеных на рэгістрацыю дакументах меліся нязначныя неадпаведнасці патрабаванням Міністэрства юстыцыі, якія маглі быць выпраўленыя пры прадастаўленні міністэрствам такой магчымасці заснавальнікам. Адмовы ў рэгістрацыі прывялі да забароны дзейнасці арганізацыі на тэрыторыі Беларусі і перашкодзілі рэалізацыі яе сябрамі сваіх правоў. Прысуд Алеся Бяляцкага да працяглага тэрміну пазбаўлення волі за дзеянні, звязаныя з атрыманнем і расходаваннем сродкаў на фінансаванне дзейнасці арганізацыі, якую ён узначальвае, быў прамым следствам парушэння свабоды асацыяцыі. Пры разглядзе справы беларускія суды адхілілі доказы таго, што гэтыя сродкі прызначаліся і выкарыстоўваліся менавіта на названыя мэты, і не разглядалі справу з пункту гледжання гарантый права на свабоду асацыяцый. У гэтых умовах прыцягненне Алеся Бяляцкага да крымінальнай адказнасці Камітэт расцаніў як парушэнне гэтага права.

«Дадзенае рашэнне Камітэта па правах чалавека на аснове міжнароднага права прызнае

*Працяг на стар. 2*

# КАМІТЭТ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА...

*Пачатак на стар. 1*

легітымнасць дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна» і цалкам рэабілітуе яго кіраўніка Алеся Бяляцкага», - з задавальненнем адзначыў Валянцін Стэфановіч, намеснік старшыні «Вясны».

Камітэт па правах чалавека таксама заключыў, што ўтрыманне пад вартай Алеся Бяляцкага ў перыяд папярэдняга расследавання мела адвольны характар, паколькі рашэнне аб арышце прымалася пракурорам, а не судом, і грунтавалася толькі на цяжары прад'яўленага абвінавачаньня, а не на фактах, якія сведчалі б пра неабходнасць і мэтазгоднасць дадзенай меры.

Камітэт прызнаў, што ў працэсе крымінальнага пераследу Алеся Бяляцкага была парушаная прэзумпцыя невінаватасці, што выявілася ў інфармацыі дзяржаўных СМІ і выказваннях Прэзідэнта, якія да ўступлення ў законную сілу прысуду суда сцвярджалі аб вінаватасці Алеся Бяляцкага, а таксама ў тым, што падчас судовых пасяджэнняў яго ўтрымлівалі ў клетцы і дастаўлялі ў суд у кайданках.

У рашэнні Камітэта па правах чалавека ўказана, што Алесь Бяляцкі мае права на належныя сродкі прававой абароны, а менавіта: перагляд заявы «Вясны» аб дзяржаўнай рэгістрацыі, зняцце судзімасці, адэкватную кампенсацыю, уключаючы пакрыццё выплат, зробленых паводле судовых рашэнняў. Акрамя таго, Камітэт пастанавіў, што дзяржава павінна перагледзець сваё ўнутранае заканадаўства аб асацыяцыях і прывесці яго ў адпаведнасць з артыкулам 22 Пакта.

«Камітэт апавясціў аб сваім рашэнні дзяржаву, якая павінна даць сродкі прававой абароны, названыя Камітэтам», - заявіў Карым Лахіджы, Прэзідэнт FIDH. «Гэтае рашэнне мае найвялікшую важнасць для»Вясны», усіх беларускіх праваабарончых арганізацый і для свабоды асацыяцый ва ўсім свеце ў момант, калі шматлікія рэжымы спрабуюць заглушыць любую крытыку ў свой адрас».

Рашэнне Камітэта па гэтай справе мае прэцэдэнтны характар. Яно ясна дэманструе, што дзеянні дзяржавы, накіраваныя на перашкоды дзейнасці праваабарончай арганізацыі - ад адмовы ў дзяржаўнай рэгістрацыі асацыяцыі да прыцягнення да адказнасці яе сябраў за ажыццяўленне імі права на асацыяцыю - з'яўляюцца парушэннем міжнароднага права. І ніякія маніпуляцыі з унутраным заканадаўствам з боку дзяржаўных органаў не хаваюць гэтага парушэння перад тварам міжнароднай супольнасці.

FIDH і ПЦ «Вясна» мяркуюць, што гэтае рашэнне - аўтарытэтная крыніца прававых аргументаў супраць узмацніўшагася ціску на праваабаронцаў і іх арганізацыі.

# УЛАДЫ ЗАРЭГІСТРАВАЛІ МАГІЛЁЎСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ЦЭНТР ПА НОВЫМ АДРАСЕ

Галоўнае ўпраўленне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкаму зарэгістравала змены ў Статуце ГА «Магілёўскі праваабарончы цэнтр». Галоўным чынам яны тычыліся новага юрыдычнага адрасу арганізацыі, адсутнасць якога ставіла пад пагрозу існаванне МПЦ.

3-га верасня ўпраўленне юстыцыі падало пазоў супраць арганізацыі ў Магілёўскі абласны суд, у якім прасіла прыпыніць дзейнасць МПЦ на тры месяцы. У пазове указвалася, што ГА «МПЦ», ажыццяўляючы дзейнасць, «доўгі час груба парушала заканадаўства (не прадастаўляла ў галоўнае ўпраўленне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкаму ўва ўстаноўлены тэрмін дакументы, неабходныя для дзяржаўнай рэгістрацыі змены юрыдычнага адрасу (месца знаходжання кіруючага органа), ўнесенай у статут)». У 2013 і 2014 гадах ГА «МПЦ» атрымала два папярэджанні за гэтыя парушэнні, якія не былі абскарджаны ў судзе. Тыя дакументы, што МПЦ падавала на рэгістрацыю ўва ўпраўленне юстыцыі, былі прызнаныя неадпавядаючымі патрабаванням заканадаўства.

Уласнік папярэдняга памяшкання, знойдзенага праваабаронцамі для юрыдычнага адрасу, пад ціскам уладаў адмовіў у арэндзе.

Пакуль цягнуўся судовы працэс аб прыпыненні дзейнасці МПЦ, праваабаронцам удалося знайсці новае памяшканне для юрыдычнага адрасу, і ў пасяджэнні суда, што адбылося 9-га кастрычніка, абодва бакі заявілі аднольковыя хадайніцтвы, ў якіх прасілі прыпыніць вытворчасць па справе, бо грамадскае аб'яднанне падало ўва ўпраўленне юстыцыі камплект дакументаў па рэгістрацыі зменаў у Статуце арганізацыі ў сувязі са зменай юрыдычнага адрасу.

29-га кастрычніка Галоўнае ўпраўленне юстыцыі Магілёўскага аблвыканкаму зарэгістравала змены ў Статуце ГА «МПЦ» і выдала арганізацыі новае пасведчанне аб рэгістрацыі.

4-га лістапада працэс аб прыпыненні дзейнасці МПЦ у Магілёўскім абласным судзе быў спынены.

# ВЫСЕЛЕНЫЯ З КВАТЭР МАГІЛЯЎЧАНЕ ПАДАЗРАЮЦЬ ЧЫНОЎНІКАЎ У ДАТЫЧНАСЦІ ДА КАРУПЦЫЙНЫХ СХЕМ З ЖЫЛЛЁМ

Магілёўцы паскардзіліся Лукашэнку з нагоды іх высялення з кватэр. Яны просяць правесці праверку датычна мясцовых чыноўнікаў, якія могуць быць замяшанымі ў карупцыйных схемах.

11 жыхароў д.59 па вуліцы Ленінскай напісалі калектыўны зварот на імя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Яны лічаць, што толькі ён можа вырашыць іх пытанне, бо ўсе астатнія дзяржаўныя органы – мясцовыя выканкамы, КДБ, КГК, суды і пракуратура аказаліся абыякавымі да іх праблемы.



Справа ў тым, што на падставе судовага рашэння некалькі сем’яў было пераселена з кватэр д.59 па вуліцы Ленінскай у інтэрнат па вуліцы Піянерскай, 48. Ініцыяваў перасяленне Будаўнічы трэст №12. Выселеныя грамадзяне заяўляюць аб фальсіфікацыі дакументаў, паводле якіх д.59 па вуліцы Ленінскай без іх ведама і згоды з недобраўпарадкаванага дома перавялі ў стан інтэрната, які затым аддалі на баланс Будаўнічага трэста №12.

Тым часам ва ўсіх іх ёсць ордэры на выдачу кватэр. Усе яны мелі кватэры плошчай ад 40 да 60 квадратных метраў, а цяпер вымушаны туліцца ў інтэрнаце, дзе на чалавека па законе прадугледжана плошча ў 6 квадратных метраў.

- Пасля распаду Савецкага Саюза кватэры жыхарам дома мясцовыя чыноўнікі прыватызаваць не далі, як і не выдавалі даведкі для будаўніцтва іншага жылля. У сувязі з тым, што дом меў патрэбу ў капітальным рамонце, жыльцам забаранілі прапісваць іншых грамадзян, - кажа юрыстка незалежнага прафсаюза Радыёэлектроннай прамысловасці Алена Барысава.

28 студзеня 2014 года падчас судовага пасяджэння д.59 па вуліцы Ленінскай быў прызнаны аварыйным, а ўсе жыхары мусілі быць пераселены. Аднак грамадзян перасялілі не ў кватэры, а ў пакоі ў інтэрнаце.

- Тым часам на руках у чатырох магілёўскіх сем’ях ёсць доказы таго, што дом, у якім яны пражылі не адно дзесяцігоддзе, з’яўляецца домам, а не інтэрнатам, - гаворыць Алена Барысава.

Юрыст адзначае, што, па-першае, у грамадзян ёсць на руках ордэры аб выдачы кватэр. Па-другое, ёсць палажэнне Міністэрства камунальнай гаспадаркі пры Савеце Міністраў БССР ад 2 верасня 1967 года аб інтэрнатах сістэмы галоўнага ўпраўлення камунальнай гаспадаркі пры Савеце Міністраў БССР, у адпаведнасці з якім рашэнню на прадастаўленне інтэрната мусіць адпавядаць форма ордэра на заняцце жылплошчы ў інтэрнаце, якіх у грамадзян няма, бо ў іх ордэры на кватэры. Па-трэцяе, з пісьмовых адказаў ЖКГ 2009 і 2013 года пазначана, што займаемыя людзьмі памяшканні з’яўляюцца кватэрамі. Па-чацвёртае, камунальныя плацяжы на працягу ўсяго часу здзяйсняліся як за кватэры, а не інтэрнат. Па-пятае, у дома вялася дамавая кніга, дзе пазначаліся звесткі аб прапісаных грамадзянах, а дамавыя кнігі выдаюцца толькі ўласнікам домаваладання. Па-шостае, з грамадзянамі індывідуальна заключаны дамовы на пастаўку газа ў балонах і з РУП “Белтэлекам” на тэлефонныя лініі ў кватэрах. Подпісаў узгадняючых гэта з камендантам інтэрната няма, бо самога каменданта ў гэтым доме ніколі не было. Па-сёмае, мэбля і іншы інвентар належыць грамадзянам, а не выдавалася ім інтэрнатам. Па-восьмае, да з’яўлення экстраннай неабходнасці перасяліць грамадзян у іншае месца Будаўнічы трэст №12 прызнаваў права за грамадзянамі на атрыманне кватэр. Гэта вынікае з адказу з гарвыканкама за 2007 год, дзе гутарка ідзе пра пошук інвестара для будаўніцтва новага дома на месцы існуючага і выдзялення жыхарам кватэр. Па-дзявятае, у адпаведнасці з графікам прыёма-перадачы ва ўласнасць “Будаўнічы трэст №12” перадаў на баланс выканкама недобраўпарадкаваны дом, а не інтэрнат.

У судзе стала вядома, што дом №59 па вуліцы Ленінскай быў зарэгістраваны ў органах рэгістрацыі і тэхнічнай інвентарызацыі нерухомасці з прызначэннем “будынак інтэрната” толькі ў 1988 годзе, то бок, пасля засялення грамадзян у кватэры. Пра гэта жыхароў дома ніхто не ўведаміў.

- На дадзены момант адміністрацыя інтэрната спрабуе заключыць з грамадзянамі тэрміновую дамову на пражыванне ў інтэрнаце тэрмінам на 5 год. Пасля скančэння гэтага тэрміну магілёўцы ўвогуле могуць апынуцца на вуліцы, - працягвае Алена Барысава.

Зараз дом перададзены на баланс Магілёўскага гарвыканкама, і грамадзяне лічаць, што на яго месцы хутка паўстане новы дом, бо месца на цэнтральнай вуліцы горада вельмі прыцягальнае для патэнцыйных інвестараў. Аднак ці атрымаюць яны кватэры – пытанне, на якое пакуль няма адказу.

# ПРАВААБАРОНЦУ АЛЕНУ ТАНКАЧОВУ ВЫСЫЛАЮЦЬ

Прэс-канферэнцыя старшыні праўлення Цэнтра прававой трансфармацыі «Lawtrend» Алены Танкачовай, якая прайшла 6 лістапада на офіце ПЦ "Вясна", ледзьве ўмясціла ўсіх жадаючых: журналістаў, праваабаронцаў, грамадскіх дзеячаў.

Рашэнне аддзела па грамадзянстве і міграцыі Першамайскага РУУС Мінска аб высылцы з Рэспублікі Беларусь грамадзянкі Расійскай Федэрацыі Алены Танкачовай з'явілася для многіх нечаканасцю. Хаця працэдура пазбаўлення віду на жыхарства ў дачыненні Алены Танкачовай, якая пражывае ў Беларусі з 1985 года,была распачатая ў верасні бягучага года, мала хто чакаў такой яе нечаканай развязкі, паколькі падставай для яе паслужылі чатыры выпадкі відэафіксацыі ДАІ нязначнага перавышэння хуткасці руху аўтамабілем, зарэгістраваным на імя праваабаронцы.

Валянцін Стэфановіч, намеснік старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" ўпэўнены, што "за пераход вуліцы ў неўстаноўленым месцы, альбо за праезд у трамваі без білета, ці за нязначнае перавышэнне хуткасці на 10 кіламетраў, не пазбаўляюць віда на жыхарства чалавека, які пражывае ў краіне з 1985 года" і гэта сведчыць аб палітычнай матываванасці такога рашэння.

Алена Танкачова, якая 5 лістапада доўгі час чакала рашэння аб высылцы ў Першамайскім РУУС Менска, падзялілася сваімі ўражаннямі ад убачанага там: "Уявіце сабе будынак былой сярэдняй школы ў самым цэнтры Менска, які па перыметры абнесены вялікай жалезнай агароджай, а на яе версе накручаны вожык калючага жалезнага дроту. Чаго ж так баіцца орган, які павінны займацца аховаю грамадскага правапарадку? Сем тысячаў подпісаў, якія былі сабраныя ў маю падтрымку, не проста былі не ўлічаныя, пра іх не сказалі ніводнага слова пад час разгляду майго пытання. Усё што адбывалася ўчора ў РУУС Першамайскага раёна падалося мне нармальна спланаваным цыркам. Нішто ж не перашкаджала ў 12 гадзін дня, як і прызначалася, разгледзець пытанне, па якім загадзя было вынесенае рашэнне. Яны проста спакойна і цынічна тэсціравалі – што ж будзе потым?

Мне падаецца, што Першамайскі РУУС - гэта такі акуратны макет краіны. А ў ім – людзі з афіцэрскімі пагонамі, для якіх не існуе паняцця афіцэрскага гонару, якія у стане бегаць за Вінаградавым і высылаць Танкачову, якія гатовыя ілжэсведчыць. Гэта макет краіны, у якой людзі ў па-



*Алена Танкачова*

гонах не маюць паняцця пра тое, што такое грамадзяне.

Усё што тычыцца рэшткаў маёй юрыдычнай адукацыі, маёй нейтральнасці, учора закончылася. Чаму? Таму што ўчора, праводзячы мяне ў РУУСе з 1 паверха на 3-ці, трое афіцэраў, пасміхаючыся казалі: "Алена Барысаўна, усё будзе добра". Я кажу ім – давайце прапусцім і дачку. "Навошта? Тут жа ўсё нармальна будзе, вось і подпісаў столькі сабралі. У вас такая падтрымка, ды й парушэнні такія нязначныя". А затым падняўся начальнікі проста сказаў: "Я прыняў рашэнне – 3 гады забароны на ўзезд у краіну. Гэтыя людзі настолькі адрэтушаваныя, што адразу і не разгледзіш той мярзоты, якая на самой справе у гэтым ёсць.

Старшыня РОО "Беларускі Хельсінскі камітэт" Алег Гулак, выступаючы на прэсавай канферэнцыі адзначыў, што вельмі складана ў справе высылкі Танкачовай апеліраваць нейкімі прававымі катэгорыямі:

"Не вельмі зразумела логіка такога кроку ўладаў – ну, вось вызвалілі Бяляцкага, былі нейкія чаканні хаця б на нейкі здаровы сэнс. Каму гэта было патрэбна – незразумела. Пытанне ёсць у тым, што рабіць у такой сітуацыі нам, каб аднавіць здаровы сэнс, каб дапамагчы чалавеку? Акрамя акцый салідарнасці ў такой неправавой сітуацыі надзвычай цяжка нешта зрабіць. Спадзяюся, што арганізацыя застанецца, а нашая праваабарончая агульная дзейнасць будзе працягвацца і надалей".

Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" Валянцін Стэфановіч, зазначыў, што і Алена Танкачова, і арганізацыя, якую яна ўзначальвае, з'яўляюцца адным з асноўных суб'ектаў праваабарончага руху Беларусі, і таму такое дзеянне ўладаў лічыць невыпадковым.

"Менавіта палітычна матываваныя дзеянні ўладаў прыводзяць зараз да таго, што адзін з вядучых праваабаронцаў высылаецца з краіны на 3 гады. Падобнага кшталту дзеянні сведчаць аб рэальных намерах уладаў і наступу, які, на жаль, працягваецца на праваабарончую супольнасць. У свой час, у 2011 годзе ў нас праходзілі серыі ператрусаў, потым пачаўся пераслед Алеся Бяляцкага, і гэта яшчэ адно звяно таго ланцуга. Шкада, што мы ізноў вяртаемся да тых падзеяў. Можа быць гэта адбываецца з-за лішняй актыўнасці Цэнтра прававой трансфармацыі у накірунку камунікай са спецдакладчыкам па Універсальнаму перыядычнаму агляду, хаця гэта працэдуры цалкам легальныя, можа яшчэ з якой прычыны, - невядома.

Сітуацыя з высылкай Танкачовай з Беларусі нагадала мне рэгістрацыю "Вясны", з дакладнасцю наадварот, У заканадаўстве ўказваецца, што рэгіструючы орган мае права прадстаўляць адтэрміноўку ў рэгістрацыі, аднак калі ты запытваешся, чаму вы не далі нам адтэрміноўку, каб выправіць месца працы аднаго з заснавальнікаў і напісаць у графе замест "сярэдняя школа" "сярэдняя агульнаадукацыйная школа", яны адказваюць: "Мы не абавязаны, гэта проста наша права, даць адтэрміноўку, ці не даць. І мы так захацелі.

Тое ж атрымалася і ў Алены. Закон не абавязваў дзяржаўныя органы высылаць і пазбаўляць віда на жыхарства Тонкачовай. Яны толькі мелі права гэта зрабіць. І яны зрабілі. Вось чаму адказ на пытанне, чаму яны гэтам правам скарысталіся, трэба шукаць у палітычнай матываванасці гэтага рашэння".

*У нумары выкарыстаныя матэрыялы ПЦ «Вясна»*

Праваабарончы веснік. Магілёўскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь. Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 ас.